Жыві, Беларусь!

# Народная газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№ 248 (261) 28 снежня 1991 г. Субота. ВЫДАЕЦЦА З КАСТРЫЧНІКА 1990 ГОДА НА БЕЛАРУСКАЙ І РУСКАЙ МОВАХ. Кошт: у розніцу — 10 кап. падпісны — 3 кап.

## ФАКС

**ФАКТЫ, АРГУМЕНТЫ, КОММЕНТАРИИ, СУЖДЕНИЯ**

### Сердце не выдерживает...

**ГОМЕЛЬ. Кошмарные очереди и давки в магазинах за едой многим становятся не под силу.**

С трудом достоявшись за сметаной в универсаме по улице Баховской, 64-летний пенсионер Ш. так и не воспользовался покупкой — умер у прилавка от сердечного приступа. Приехавшая с большим опозданием «скорая помощь» уже не понадобилась.

**Анатолий ГОТОВЧИЦ.**

### Чей союз профессиональнее?

**Перед необходимостью ещё одного выбора оказались рабочие Минского автозавода — здесь теперь сосуществуют два профсоюзных комитета.**

На днях здесь прошла учредительная конференция свободного профсоюза МАЗа, которая утвердила устав и определилась с выборными органами. На ней, кстати, было решено сделать профсоюз недоступным для разного рода работодателей — устав лишил администрацию предприятия права членства в нем.

Итак, официальный профсоюз по-прежнему существует, членами двух одновременно быть запрещено, на учредительной конференции нового союза присутствовало 29 человек. Чья возьмет?

**Ирина ФЕДОРОВА.**

### ...А дочка поймет все позже

**От мощной дозы радиации, полученной в зоне Чернобыльской АЭС, скончался два года назад 23-летний сотрудник Витебского УВД Сергей Малахов. Совсем немного не дожил он до рождения дочери и уж, конечно, не подозревал, что его посмертно наградят боевым орденом.**

Спустя два года после похорон Сергея его начальник генерал-майор Алексей Клещенок вручил орден Красной Звезды вдове Малахова Лидии и его родителям.

На церемонии присутствовала и маленькая дочь покойного милиционера, которая еще не понимает, какой ценой оплачен и какими слезами оплакан пятиконечный знак.

**Сергей СЕРГЕЕВ.**

### Вкратце

△ В Минске началась работа международной конференции «Неправительственные организации и инициативы — за безопасность и будущее детей Чернобыля».

△ Уголовное дело о гибели 21 августа в Москве во время попытки государственного переворота Дмитрия Комаря, Ильи Кричевского, Владимира Усова прекращено. Следователь Московской городской прокуратуры В. Фокина сказала твердо, что экипаж БМП-536 не виновен.

### «Мрія» летела с индейкой

**ГОМЕЛЬ. Гуманитарная помощь, доставленная из США в Киев авиалайнером «Мрія», дошла и до города над Сожем.**

75 тонн лекарств, медоборудования, детских продуктов питания поступило в адрес управления здравоохранения облисполкома. Помощь собрана по инициативе известного гомельчанам своими лекциями пастора Мура. Он же и сопровождал груз вместе с женой и сыном.

В детском отделении медсанчасти химзавода, куда также распределена помощь для маленьких пациентов, госпожа Шарон Мур устроила торжественный ужин с индейкой — точно такой, какую готовят в каждой американской семье к Рождеству и Новому году.

**Анатолий ГОТОВЧИЦ.**

### Лоточницы искренне верят...

**На улице Пушкинской в Кобрине удивляет лоток христианской библиотеки.**

Лоток, смутное сегодняшнее время и неприличная пухлость кошельков заставляют начинать большинство вопросов к библиотекарям со слова «Почем?». За «почем?» следует терпеливый ответ: книги не продаются, они даются почитать в обмен на паспортные данные.

Кстати, таких религиозных библиотек на общественных началах в республике уже много. Эта существует уже полтора года.

**Ольга КОРОВИНА.**

### Купил кое-что на миллион с лишним...

**Эта информация — специально для тех из нас, кто ежедневно стоит в очередях, у кого даже при покупке бутылки молока требуют показать документ, удостоверяющий личность...**

В аэропорту «Минск-2» задержан гражданин П. Семенко — житель г. Петропавловск-Камчатский. Он пытался вывезти за пределы республики самолетом ИЛ-76, бортовой номер 76755, продовольственных и промышленных товаров, скупленных на территории республики, на общую сумму 1.354.000 рублей.

Товар был приобретен хозрасчетно - производственным участком «Авага» (г. Петропавловск-Камчатский) у общества с ограниченной ответственностью «Эврика» Центрального райисполкома г. Минска. Товары изъяты, составлен протокол.

**Николай СУВОРОВ.**

### Шумит рынок...

**Цены (в рублях) на 24 декабря**

**САНКТ-ПЕТЕРБУРГ (Кузнечный рынок).** Картофель (1 кг) — 7—10, капуста 5—7, морковь — 7—8, свекла — 10—12, сметана — 100, творог—40, говядина — 100—200, свинина — 100—200.

**ВИЛЬНЮС.** Картофель — 3—5, капуста — 3, морковь — нет, свекла — нет, сметана — нет, говядина — 75—85, свинина — 75—85.

**РИГА.** Картофель — 5—8, капуста — 2—3, морковь — 4—8, свекла — 3—4, сметана — 60—100, творог — 40—50, молоко — 10, говядина — 50—60, свинина — 45—90.

**ТАЛЛИНН.** Картофель — 7, капуста — 3, морковь — 4, свекла — 3, сметана—нет, творог — нет, молоко — нет, говядина — нет, свинина — 50.

**МИНСК (Комаровский рынок).** Картофель — 5—6, капуста — 2—3, морковь — 5—15, свекла — 3—4, лук — 7—8, яблоки — 8—25, мандарины — 18—25, сало — 70, свинина — 80, телятина — 90, куры (1 кг) — 25, кролик (1 кг) — 25, масло — 80, творог — 40, сметана — 25, мед — 120, яйца (1 дес.) — 30, пиво (1 бут.) — 4, сигареты «Космос» — 8.

**«Агентство РИД».**

**«Горячий» телефон 32-24-02 работает ежедневно с 9 до 11 часов.**

Ракурс

## АПАГАНЕНАЯ ПАМЯЦЬ...





Крыжы Памяці на месцах масавых расстрэлаў ні ў чым не вінаватых людзей. Першы з іх паўстаў у Курапатах. Мінулай восенню, на Дзяды, маўклівы знак пакуты з'явіўся і на Полаччыне...

Жалобнае народнае шэсце пранесла яго праз увесь горад, сімвалічна прайшоўшы па апошнім шляху ахвяраў крывавага тэрору савецкай улады супраць сваіх грамадзян. Пачынаўся гэты шлях на плошчы (раней Свабоды, цяпер — Леніна), дзе калісьці мясціліся штаб і турма НКВД—КДБ. А канчаўся — ля могілак побач з вёскай Бельчыца, вакол якіх у 30-я гады расстрэльваліся жыхары навакольных вёсак. У гэтую шчодра палітую народнай крывёю зямлю і быў укапаны крыж. Узняўшы небу аздоблены вянком з калючага дроту кароткі надпіс: «Пакутнікам Беларусі ад нашчадкаў, не страціўшых памяць». Запрошаныя святары асвяцілі крыж па праваслаўным, уніяцкім і каталіцкім абрадах.

Увесь год да гэтага святога месца хадзілі людзі, клалі кветкі, ставілі свечкі. Але ні ганьба народная, ні боская кара не спыніла рукі нягодніка. Напярэдадні сёлетніх Дзядоў маланкай апаліла вестка: Крыж Памяці зламаны, апаганены.

І — нікому няма справы. Ні міліцыі, ні ўладам. Толькі бабулькі мясцовыя павохкалі ды разышліся.

Біць у званы пачалі народнафронтаўцы. Выйшлі на райвыканкам, звязаліся з мясцовым саўгасам. З дапамогаю ягоных майстроў і быў зроблены яшчэ адзін крыж. Укапалі яго крыху паводдаль, як цень. А стары прыбіраць не сталі. Пакінулі як сімвал ужо не толькі пакуты, але і чалавечага вандалізму...

**Ларыса МАЛАШЭНЯ.**
**Фота Сяргея ПЛЫТКЕВІЧА.**
г. Полацк.

## Закон Рэспублікі Беларусь

### Аб мінімальнай заработнай плаце і дзяржаўных гарантыях у галіне аплаты працы

**Артыкул 1. Мінімальная заработная плата.**

Мінімальная заработная плата — нарматыў, які вызначае мінімальна дапушчальны ўзровень грашовых або натуральных выплат работніку наймальнікам за выкананую для яго работу.

Пералік выплат, якія ўключаюцца ў заработную плату, вызначаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 2. Ужыванне мінімальнай заработнай платы.**

Мінімальная заработная плата з'яўляецца асновай для вызначэння рэспубліканскіх тарыфаў у галіне аплаты працы, пенсій, стыпендый, дапамог і іншых сацыяльных выплат.

**Артыкул 3. Размер мінімальнай заработнай платы.**

Размер мінімальнай заработнай платы вызначаецца, зыходзячы з мінімальнага спажывецкага бюджэту з улікам рэальных умоў аднаўлення рабочай сілы ў адпаведнасці з яе вартасцю, і зацвярджаецца Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь.

У калектыўных дагаворах (пагадненнях) можа прадугледжвацца больш высокі размер мінімальнай заработнай платы.

**Артыкул 4. Дзяржаўныя гарантыі ў галіне аплаты працы.**

Дзяржаўныя гарантыі ў галіне аплаты працы ўключаюць мінімальную заработную плату, рэспубліканскія тарыфы, а таксама некаторыя віды даплат і надбавак кампенсацыйнага характару, вызначаных заканадаўствам.

Дзяржаўныя гарантыі ў галіне аплаты працы, акрамя рэспубліканскіх тарыфаў, распаўсюджваюцца на работнікаў, якія знаходзяцца ў працоўных адносінах на ўмовах найму незалежна ад форм уласнасці і гаспадарання.

Рэспубліканскія тарыфы ў галіне аплаты працы як дзяржаўныя гарантыі распаўсюджваюцца на работнікаў у адпаведнасці з часткай першай артыкула 5 гэтага Закона.

**Артыкул 5. Рэспубліканскія тарыфы ў галіне аплаты працы.**

Рэспубліканскімі тарыфамі ў галіне аплаты працы з'яўляюцца месячныя тарыфныя стаўкі і службовыя аклады, якія вызначаюць узроўні аплаты працы для канкрэтных прафесіянальна-кваліфікацыйных груп работнікаў бюджэтных устаноў і арганізацый. Іншыя наймальнікі, калі гэта прадугледжана калектыўнымі дагаворамі (пагадненнямі), абавязаны выкарыстоўваць рэспубліканскія тарыфы для дыферэнцыравання аплаты працы ў залежнасці ад прафесіі, кваліфікацыі, складанасці і ўмоў выканання работ. У іншых выпадках наймальнікі маюць права выкарыстоўваць рэспубліканскія тарыфы ў якасці арыенціраў для дыферэнцыравання аплаты працы.

Рэспубліканскія тарыфы ў галіне аплаты працы вызначаюцца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь або іншым упаўнаважаным на гэта органам на наступны каляндарны год паводле ўзгаднення с прафсаюзамі на падставе мінімальнай заработнай платы і цэнтралізавана ўстаноўленых дыферэнцыраваных у залежнасці ад складанасці працы тарыфных каэфіцыентаў адзінай тарыфнай сеткі.

Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь на працягу каляндарнага года мае права павышаць рэспубліканскія тарыфы ў галіне аплаты працы.

**Артыкул 6. Размеры аплаты працы.**

Размеры аплаты працы работнікаў вызначаюцца на падставе калектыўных дагавораў (пагадненняў), працоўных дагавораў і кантрактаў з улікам патрабаванняў працоўнага заканадаўства, залежаць ад іх асабістага працоўнага ўкладу і максімальнымі размерамі не абмяжоўваюцца.

**Артыкул 7. Формы выплаты заработнай платы.**

Аплата працы ажыццяўляецца ў грашовых адзінках, якія знаходзяцца ў абарачэнні на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, або ў валюце, якая мае законнае прымяненне ў рэспубліцы.

Са згоды работніка дапускаецца замена грашовай аплаты натуральнай.

**Артыкул 8. Тэрміны і перыядычнасць аплаты працы.**

Аплата працы праводзіцца рэгулярна ў дні, вызначаныя ў калектыўным дагаворы (пагадненні) або ў працоўным дагаворы (кантракце), але не радзей кожнага паўмесяца.

Для асобных катэгорый работнікаў заканадаўствам могуць быць вызначаны іншыя тэрміны выплаты заработнай платы.

**Артыкул 9. Рэзервовы фонд заработнай платы.**

Для забеспячэння выплат належнай работнікам заработнай платы, а таксама прадугледжаных заканадаўствам, калектыўным і працоўным дагаворамі гарантыйных і кампенсацыйных выплат у выпадку банкруцтва або неплацежаздольнасці наймальніка, ліквідацыі прадпрыемства, установы, арганізацыі, спынення дзейнасці прадпрымальніка і ў іншых, прадугледжаных заканадаўствам выпадках, наймальнікі абавязаны ствараць рэзервовы фонд заработнай платы на падставах, у размерах і парадку, прадугледжаных калектыўнымі дагаворамі (пагадненнямі). Выкарыстанне гэтага фонду на іншыя мэты дазваляецца толькі па ўзгадненню з працоўным калектывам.

**Артыкул 10. Гарантыя кампенсавання сродкаў на аплату працы.**

Сродкі на аплату працы работнікаў, якія знаходзяцца ў працоўных адносінах на ўмовах найму з наймальнікам, незалежна ад форм уласнасці гарантуюцца даходам і маёмасцю наймальніка.

Пры немагчымасці праводзіць аплату працы на ўзроўні дзяржаўных гарантый, прадугледжаных гэтым Законам, наймальнік можа быць ва ўстаноўленым парадку аб'яўлен банкрутам. Пры гэтым выплаты паводле абавязацельстваў перад працаўнікамі робяцца за кошт яго маёмасці.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**
**С. ШУШКЕВІЧ.**

21 снежня 1991 г. г. Мінск.

## ПАСТАНОВА

### Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

**Аб парадку ўвядзення ў дзеянне Закона Рэспублікі Беларусь «Аб мінімальнай заработнай плаце і дзяржаўных гарантыях у галіне аплаты працы»**

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь пастанаўляе:

1. Увесці ў дзеянне Закон Рэспублікі Беларусь «Аб мінімальнай заработнай плаце і дзяржаўных гарантыях у галіне аплаты працы» з моманту яго прыняцця.

2. Устанавіць з 1 студзеня 1992 года мінімальную заработную плату ў размеры 350 рублёў у месяц.

3. Даручыць Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь да 1 лютага 1992 года:

— зацвердзіць тыпавое палажэнне аб рэзервовым фондзе заработнай платы;

— прадставіць прапановы аб прывядзенні існуючых заканадаўчых актаў Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з гэтым Законам.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**
**С. ШУШКЕВІЧ.**

21 снежня 1991 г. г. Мінск.

**Спасите наши души!**

## КАРАУЛ, ГРАБЯТ!

Вот какой случай произошел с одним витебским кооперативом, который специализируется на строительстве. Кстати, объемы работ у него в два раза больше, чем в аналогичном строительном тресте, а численность раза в три меньше. Соответственно меньше и фонд заработной платы, и затраты на рубль произведенной продукции, хотя, конечно, люди зарабатывают гораздо больше, чем в госсекторе.

Поскольку кооператив выполнял в основном государственные заказы и, подчеркиваю, по государственным расценкам, с него брали в казну налог примерно 20 процентов. Но однажды исполком того города, где зарегистрирован кооператив, обратился к нему с просьбой наладить выпуск товаров народного потребления. Коллектив, понимая все трудности местных властей, быстро организовал новое производство. Правда, для начала в небольшом количестве. Где-то тысяч на сорок. Весь же объем работ составлял несколько миллионов.

Все, казалось бы, остались довольны, интересы всех сторон соблюдены. Но вот тут-то предприниматели и получили урок, который, думается, не будет забыт никогда. Местная налоговая инспекция, прослышав о том, что кооператив стал выпускать товары по договорным ценам, поскольку по таким же ценам покупал и сырье, обложила коллектив новым налогом, который превышал прежний ровно в два раза. Но не эти сорок тысяч, как того требует логика, а вообще все доходы.

Простите, но девяносто девять процентов работ мы выполняем по госрасценкам, безрезультатно взывали к здравому смыслу предприниматели, за что же такой грабеж? Оказалось, что в результате кооператив должен был внести в казну сумму, во много раз превышающую весь доход от продажи товаров народного потребления. Понимали это в Минфине республики, куда кооператоры обратились, понимали и в республиканской налоговой инспекции, но в результате победила дурацкая инструкция, изобретенная где-то в Москве.

— Да я своими руками разобью эти товары, из-за которых нас почти разорили, — сказал председатель кооператива Георгий Калиновский. — И разбил. Кувалдой размолотил все, что не успели продать.

«Бред какой-то»,—скажет читатель. Действительно, бред. Но, прошагав не один километр вместе с кооператором, терявшим последние капли веры в справедливость, по коридорам власти, я убедился, что бред этот — реальность нашего бытия. Некоторые действующие законы и особенно дополняющие их инструкции сделаны так, чтобы поощрить махровую спекуляцию, но убить в зародыше всякий интерес к производственной деятельности.

Об этом же говорили недавно и руководители Союза предпринимателей республики при обсуждении проекта законов о налогообложении.

— В развитых странах, — подчеркнул эксперт Союза, председатель правления объединения «Техэнергостройналадка» Михаил Шавельзон, — предусматривается законом: если в суде будет доказан тот факт, что налоги удержаны неправильно, орган, допустивший ошибку, возвращает пострадавшей фирме сумму, равную их тройному размеру. У нас же даже в Хозяйственный суд нельзя подать апелляцию.

Кстати, и сейчас бухгалтера предприятий и организаций сходят с ума, разгадывая ребусы, которые им задают налоговые работники. Только в этом году методика налогообложения менялась три раза. Порой новые инструкции доходят до исполнителей через полгода после того, как они должны были вступить в действие. Тут уж наказывать можно всех подряд. Задним числом приходится пересчитывать некоторые виды налогов. А ведь было обещано, что в течение пяти лет будет хоть какая-то стабильность.

По мнению самих налоговых работников, примерно половина предприятий утаивает прибыль, чтобы не платить налоги. Но в действительности система инструкций по налогообложению так запутана, что разобраться в ней не могут даже работники Минфина республики. Одни документы противоречат друг другу, другие допускают двойное толкование. Министерство финансов Союза ССР, надо думать, почило в Бозе вместе с Союзом, но бумаги, которые оно наплодило, еще действуют.

Налоги — самый тонкий и самый сложный инструмент экономической политики государства. Умело применяя его, можно добиться экономического бума, но любая ошибка в этом деле приводит к депрессии или даже к свертыванию производства. Похоже, в ближайшем будущем нас ждет именно это. Понятно стремление сократить дефицит бюджета, но нельзя это сделать, убив «курицу, несущую золотые яйца».

**Владимир САМОЙЛОВ,**
**обозреватель «Народной газеты».**

**Усё па-старому!**

## А ў «Юнацтве» ўсё партыйныя балады...

Неяк падзівіўся, што прапануе сваім чытачам выдавецтва «Юнацтва». Дык вось: зборнік «Родной и близкий» пра У. І. Леніна, П. Ткачова «Балада аб партыйным білеце», М. Зяньковіча «Эпоха в лицах» (пра камуністаў, камісараў і да т. п.), зноў М. Зяньковіча «Соленый год»... Нават не верыцца, што на двары іншы час, што пазбавіліся партакратычных лейцаў.

Не здзіўлюся, калі яшчэ адзін том таго ці іншага партакрата з'явіцца ў «Юнацтве». А вось беларускіх творцаў тут не спяшаюцца выдаваць, некаторых перакідваюць з плана ў план.

У Доме кнігі, па вобразнаму выслоўю Р. Барадуліна, «Юнацтва» называюць рэжымным выдавецтвам.

Калі ж яно стане сапраўды нацыянальным?

**Васіль КАЛЯДЗІНСКІ,**
**настаўнік.**
г. Мінск.

## «Совок» заработает сам

Тот факт, что советские спекулянты, к страшному негодованию местного населения, заполонили все «блошиные рынки» Польши, ни для кого не является новостью. Только негодование поляков по этому поводу носит не совсем искренний характер.

Ведь советские спекулянты предлагают свои товары по столь бросовым ценам, что это с лихвой окупает для населения все неудобства от их нашествия. Больше тревожит польских экономистов то, что эти «туристы» меняют вырученные злотые на валюту, увозя ее с собой. Однако выгоды советско-польского «бартера», похоже, уверенно покрывают и этот недостаток. Польша, по крайней мере в ближайшее время, вовсе не намерена вводить для «совков» долларовый ограничительный ценз, как это уже было сделано по отношению к монголам и румынам, вынужденным иметь при посещении не менее 25 долларов на каждый день пребывания.

**«М.-Э.».**

